№ 170 (1733)
Серада, 10 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +11...+13, уначы — +8...+10; у Брэсце ўдзень — +16...+18, уначы — +9...+11; у Гродне ўдзень — +13...+15, уначы — +7...+9; у Віцебску ўдзень — +10...+12, уначы — +8...+10; у Гомелі ўдзень — +10...+14, уначы — +8...+10,; у Магілёве ўдзень — +11...+13, уначы — +8...+10.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца воблачнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



**НУ И НУ!**

## Железный занавес на границе с Россией?

Похоже, что в ближайшее время Беларусь опустит железный занавес на границе с... Россией. Не исключено, что те пограничные столбы, которые выкапывал А.Лукашенко с В.Черномырдиным, опять появятся между Оршей и Смоленском.

На такие размышления навел журналистов "Народной воли" депутат Палаты представителей генерал Валерий Фролов. Он сообщил, что располагает информацией о заседании правительства в ночь с понедельника на вторник, на котором шел разговор об экстренном восстановлении всех коммуникационных систем на границе Беларусь — Россия. Это якобы ответ белорусских властей на действия Кремля.

Вот уж поистине от любви до ненависти один шаг. Впрочем, появятся ли пограничные столбы в направлении Смоленска — об этом, думается, получим официальную информацию в ближайшие дни.

**Антон КОРЗУН.**



У Магілёве прайшоў адкрыты чэмпіянат горада па мотакросу. У спаборніцтвах бралі ўдзел каманды з Беларусі, Расіі, Украіны. **На здымку:** *на трасе кроса.*

Фота Алега ФАЙНЦКАГА, БелТА.

## Антифашистская акция «ЗУБРа»

Незарегистрированное общественное движение "Зубр" в прошедшие выходные провело очередную антифашистскую акцию.

Активисты "Зубра" закрасили фашистские граффити на проспекте Дзержинского в Минске, которые появились на стенах вдоль проспекта, а также в микрорайоне "Сухарево". Две надписи фашисты сделали даже на ограде кладбища. Если в "Сухарево" надписи были быстро закрашены, то надписи, рекламирующие фашистскую организацию "РНЕ" на проспекте Рокоссовского, похоже, местным властям нисколько не мешали. За дело пришлось взяться активистам "Зубра". В течение нескольких минут все следы присутствия русских фашистов в белоруской столице были закрашены.

Движение "Зубр" просит сообщать о всех фашистских граффити на пейджер **289-12-12 аб. 5737.**

**ПУЛЬС**

## Будзем кансультавацца!

Пяць палітычных партый — Партыя камуністаў Беларуская, Партыя БНФ, Беларуская партыя працы, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Аб'яднаная грамадзянская партыя — сумесна з шэрагам вядучых грамадскіх арганізацый Беларусі прынялі рашэнне аб стварэнні кансультатыўнай нарады партый і грамадскіх аб'яднанняў, паведамілі БелаПАН у прэс-службе АГП.

**Аляксей ШЭІН.**

## Памяць пра выдатнага кампазітара

Сёння, 10 верасня, у дзень 74-годдзя выдатнага беларускага кампазітара Яўгена Аляксандравіча Глебава, у 12 гадзін дня адбудзецца адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, дзе ён жыў, па вуліцы Кульман, 15.

## Прыляціць «Боінг»...

Нацыянальная авіякампанія "Белавія" падпісала пагадненне аб пастаўцы ў аператыўны лізінг першага самалёта "Боінг 737/500" з амерыканскай лізінгавай кампаніяй "ILFC-International Leasing Finance Corporation" ("Міжнародная лізінгавая фінансавая карпарацыя"). Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў Дзяржаўным камітэце па авіяцыі. Прыбыццё першага "беларускага" авіялайнера "Боінг 737/500" запланавана на 15 кастрычніка 2003 года ў Нацыянальны аэрапорт "Мінск".

Паводле заключэння спецыялістаў, самалёт знаходзіцца ў добрым стане і можа быць прыняты да эксплуатацыі без абмежаванняў па тэхнічных стандартах краін ЕС на ўвесь тэрмін лётнага жыцця (да 35 гадоў).

**Аляксей АРЭШКА.**

**ДИСКУССИЯ**

# Наша реакция — негативная

Крайне негативную реакцию среди общественности г. Бреста вызвали выводы, сделанные Аленой Дашкевич в публикации "Отказали в празднике. И детям, и партии" ("Народная воля", 4 сентября 2003 г.). На каком основании автором независимой демократической газеты делается вывод о "беспомощности" партии? Мы приглашаем Алену Дашкевич посетить Брестскую городскую организацию Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада).

Брестская городская организация БСДП (НГ) дважды выигрывала суды у горисполкома, и именно по поводу запрещения митингов или демонстраций. А чиновники выплачивали компенсации. Так что тезис Алены, что пора поставить чиновников на место, уже неоднократно у социал-демократов опробирован. В прошлом году один из фестивалей прошел в окружении милицейских машин.

Брестская городская организация социал-демократов только за последние два года провела десятки пикетов, митингов, демонстраций в поддержку свободы слова, в защиту учителей и рабочих, против повышения коммунальных платежей, за достойный уровень жизни. Городская организация провела ряд социальных акций — фестивали, конкурсы, турниры, оказывала помощь гражданам, чьи права нарушены и др. Брестская городская организация БСДП — единственная в Бресте политическая сила, которая открыто выступила за сохранение судьбоносного для многих военного госпиталя и провела ряд мероприятий в его защиту.

Городская организация социал-демократов является одной из самых сильных и уважаемых партийных структур в городе. Любая партия или партийная структура в первую очередь показывает себя на выборах. К примеру, только на последних местных выборах в Бресте БСДП (НГ) выдвинула 17 кандидатов в депутаты, для сравнения: ПКБ — 10, ЛДП — 9, БНФ — 5, ОГП — 0, БСДГ — 0. Кроме того, социал-демократы выдвинули своих представителей в абсолютное большинство избирательных комиссий, а на каждый участок выставили своего наблюдателя в тех округах, где баллотировались. В 10 округах состоялся второй тур выборов и в пяти из них вышли победителями социал-демократы. Результаты выборов всем известны.

Ряд членов Брестской городской организации БСДП (НГ) потерял за политические убеждения престижную работу после президентских и местных выборов (преподаватели университетов, госслужащие, учителя и др.). Кого-то судили, кто-то отбывал отсидку за свою партийную деятельность. И никто из них не задавал вопрос, зачем нужна такая партия, как это делает А. Дашкевич. Никто из них не сломался, не уехал за рубеж и не попросил политического убежища.

И последнее: социал-демократы отказались от проведения фестивалей не потому, что горисполком запретил, а потому, что социал-демократы никогда не поддерживают насильственный путь борьбы, потому что социал-демократы не подставляют под дубинки детей и не прячутся за их спины.

Просим "Народную волю" опубликовать наш материал.

*С уважением постоянные читатели "Народной Воли":*

**Анатолий ЛЕВКОВИЧ — председатель областной организации БСДП (НГ);**

**Игорь МАСЛОВСКИЙ — председатель Брестского областного отделения РОО "Белорусский Хельсинкский Комитет";**

**Валентин ЛАЗАРЕНКОВ — председатель Брестской областной региональной организации СПБ;**

**Наталья ГАЛАНИНА — от ОО "Маладая Грамада" в Бресте;**

**Надежда СЕЛИВОНИК — от ОО "Женская лига";**

**Геннадий БЕДУНКЕВИЧ — полковник запаса, от группы офицеров Бреста.**

### ОТ РЕДАКЦИИ

*Это хорошо, что публикация газеты задела за живое партийных функционеров и тех, кто следует в одной с ними связке. Нам только остается еще кое-что разъяснить. Авторы письма возмущаются: **"На каком основании... делается вывод о "беспомощности" партии?"**. Подчеркиваем: в заметке А.Дашкевич никакого вывода нет, есть предположение, касающееся конкретного факта. Если вы считаете, что горисполком **незаконно** запретил проведение фестивалей, то почему не добиваетесь отмены запрета **законным путем.** Никто вас не призывает к насильственной борьбе, как и к тому, чтобы подставлять под дубинки детей и прятаться за их спины. Не нужно передергивать, внимательнее вчитывайтесь в каждое слово.*

*Но редакция еще раз заостряет внимание на таком моменте: **если партия не может себя защитить, то как она может защитить общество?** Не потому ли так плачевно заканчиваются в стране различные референдумы и выборы? Хвалиться, активисты, будете тогда, когда будут результаты. А пока — за черновую работу, друзья, за черновую. Это ли успех, что на местных выборах вы провели в депутаты пять человек? А почему не пятьдесят? По стране, заметим, было 24 тысячи кандидатских вакансий. Много ли в Советах депутатов-демократов? Не хочется даже конкретную цифру называть — смехотура. А вы пишете, что "любая партия или партийная структура показывает себя в первую очередь на выборах". Показали...*

*Как некий героизм выставляете вы то, что "кого-то судили, кто-то отбывал отсидку за свою партийную деятельность". А что, кто-то поднесет победу на тарелочке с голубой каемочкой? Члены любой партии, включившись в борьбу с политическими оппонентами, должны быть готовы к самым жестким методам конкуренции. Борьба за власть ради больших изменений в стране — это не пускание слюны, не болтовня на кухнях, а рискованная работа до седьмого пота, до крови из-под ногтей.*

*Результат всей работы партий, движений — бесплодное девятилетнее правление А.Лукашенко. Если вы, лидеры-демократы, этого не понимаете, то Александр Григорьевич будет править многострадальной Беларусью до последнего своего вздоха.*

**ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ**

*6 верасня на старонках "Народнай волі" была надрукавана інфармацыя "КХП — БНФ патрабуе ад расійскіх уладаў "спыніць умяшанне ва ўнутраныя справы Беларусі".*

*Пераказ заявы Зянона Пазьняка і яго паплечнікаў спарадзіў у многіх чытачоў просьбу апублікаваць гэты звышактуальны дакумент поўнасцю. Ідучы насустрач пажаданням шэрагу прыхільнікаў газеты, друкуем заяву практычна без скарачэнняў.*

# Расія, спыні ўмяшанне ва ўнутраныя справы Беларусі!

### Заява

Мы, грамадзяне Беларусі, патрабуем ад уладных органаў Расійскай Фэдэрацыі спыніць парушэнне норм міжнароднага права ў дачыненні да Рэспублікі Беларусь і амаль дзесяцімільённага беларускага народа. Справа тычыцца незаконнай дзейнасці вышэйшых органаў улады Расійскай Фэдэрацыі па выкананні незаконнага дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы, які 8 снежня 1999 года падпісаны з боку Расійскай Фэдэрацыі Прэзідэнтам Б.Ельцыным. Гэты дагавор незаконны, паколькі накіраваны на ператварэнне унітарнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь у суб'ект нейкай "саюзнай дзяржавы", што забаронена нашай Канстытуцыяй.

Парушэнне Канстытуцыі нашай дзяржавы цягне за сабой парушэнне нашых канстытуцыйных і агульнапрызнаных правоў і свабод. А менавіта:

— права жыць і рэалізоўваць свае сацыяльна-духоўныя і творчыя магчымасці ў незалежнай суверэннай беларускай дзяржаве;

— права не ўдзельнічаць у ваенных канфліктах іншай дзяржавы і не аддаваць сваіх сыноў у чужое войска, на чужыя войны;

— права на валоданне нацыянальнай маёмасцю, у аснове якой ляжыць праца кожнага беларуса;

— права на стварэнне прыватнай уласнасці на аснове беларускай нацыянальнай маёмасці;

— права ўласнасці на зямлю (з-за стварэння неспрыяльных для беларусаў эканамічна-праўных умоў);

— права на інтэлектуальную маёмасць беларускай нацыі (у выніку вынішчэння беларускай нацыянальнай адукацыі);

— права на адукацыю на роднай мове (у выніку ліквідацыі беларускай нацыянальнай агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы);

— права на беларускую нацыянальна-культурную самарэалізацыю асобы (у выніку ліквідацыі афіцыйнага ўжывання беларускай мовы).

Дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы і праграма па яго рэалізацыі дакументальна сведчаць аб грубым умяшанні Расійскай Федэрацыі ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь з мэтай ліквідацыі яе дзяржаўнай незалежнасці і суверэнітэту. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ў снежні 1999 года, калі быў падпісаны гэты незаконны дагавор, ні А.Лукашэнка, ні прызначаныя ім "палаты Нацыянальнага сходу" не прызнаваліся легітымнымі ўладамі ў Беларусі як з боку дэмакратычных сіл нашай краіны, так і з боку цывілізаванай Еўропы і ЗША. А.Лукашэнка, падпісаўшы гэты дагавор, парушыў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь (артыкулы 7 і 8) і Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь" (артыкулы 3 і 6).

Знаходжанне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь органаў незаконнай саюзнай дзяржавы, уключэнне беларускага войска ў склад аб'яднанай вайсковай групоўкі, уключэнне беларускай мяжы і беларускіх памежных войск у мяжу і памежныя войскі "саюзнай дзяржавы", праца па ліквідацыі беларускай валюты і ўвядзенні расійскага рубля, татальная русіфікацыя ў галінах адукацыі, дзяржаўнага справаводства і СМІ, утрыманне савецкага ладу ў пытаннях уласнасці на зямлю і на сродкі вытворчасці, заганная кадравая палітыка, заканадаўчая і нарматыўная "творчасць" па абмежаванні эканамічных, палітычных, культурных правоў беларусаў сведчаць аб тым, што А. Лукашэнка і яго рэжым дзейнічаюць у інтарэсах чужой дзяржавы (Расійскай Федэрацыі). Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь кваліфікуе такую дзейнасць як злачынства супраць дзяржавы і здраду дзяржаве (частка 32, арт. 356).

Расійская Федэрацыя праз дзейнасць незаконна створаных арганізацыйных структур незаконнай саюзнай дзяржавы, менавіта праз Вышэйшы Савет саюзнай дзяржавы, Савет Міністраў саюзнай дэяржавы, Парламенцкі сход саюзнай дзяржавы, сумесныя калегіі сілавых міністэрстваў, міністэрств замежных спраў ды іншых адкрыта ўмешваецца ва ўнутраную і знешнюю палітыку Рэспублікі Беларусь.

У сітуацыі, калі вышэйшая службовая асоба дзяржавы А.Лукашэнка і органы ўлады на Беларусі пераступілі Канстытуцыю і Закон, сталі на службу вялікадзяржаўным інтарэсам Расіі, мы, грамадзяне Беларусі, выконваючы свае канстытуцыйныя абавязкі, мусім прыняць неабходныя меры для абароны сваіх правоў і свабод, для абароны незалежнасці і суверэнітэту сваёй дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

Мы разглядаем дзейнасць кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі ў дачыненні да Рэспублікі Беларусь як палітычную агрэсію з прымяненнем эканамічнай і інфармацыйнай сілы, подкупу і карупцыі, што не сумяшчальна з абавязацельствамі Расійскай Федэрацыі як члена Савета Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Мы патрабуем ад прэзідэнта, Дзяржаўнай Думы, Савета Федэрацыі, Савета Міністраў Расійскай Федэрацыі:

1. Спыніць ўмяшанне ва ўнутраныя справы Рэспублікі Беларусь.

2. Дэнансаваць незаконны дагавор ад 8 снежня 1999 г. аб стварэнні саюзнай дзяржавы.

3. Ліквідаваць усе незаконныя арганізацыйныя структуры незаконнай саюзнай дзяржавы.

4. Спыніць працу па навязванні беларусам незаконнага рэферэндуму аб прыняцці "канстытуцыйнага акта" незаконнай саюзнай дзяржавы. Ва ўмовах дыктатуры, якая створана і ўтрымліваецца ў Беларусі з дапамогай расійскіх улад і спецслужб, вынікі "рэферэндуму" прызнанымі быць не могуць.

Дэмакратычныя сілы вольнай Беларусі не прызнаюць незаконнага дагавору аб стварэнні незаконнай саюзнай дзяржавы.

Мы заяўляем нашы патрабаванні ад імя больш за 2500 грамадзян з розных гарадоў і вёсак Беларусі, якія падпісалі на сённяшні дзень калектыўную заяву ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем прызнаць несапраўдным дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы за 8 снежня 1999 года. Мы абапіраемся на пазіцыю мільёнаў грамадзян Беларусі, якія не жадаюць уваходзіць у склад Расіі, якія будуюць і сцвярджаюць сваё жыццё і сваю будучыню ў незалежнай суверэннай Беларусі. Гэта пацверджана сацыялагічнымі даследаваннямі і апытаннямі 2001—2003 гадоў, вынікі якіх апублікаваныя ў прэсе.

Ад дзеяння (ці бяздзеяння) расійскай улады ў адказ на нашу заяву будуць залежаць дачыненні Беларусі да Расіі. Бо рэжым Лукашэнкі (як бы яго ні падтрымлівалі адпаведныя сілы ў Расіі) не будзе вечным.

**Грамадзяне Рэспублікі Беларусь:**

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**Юры БЕЛЕНЬКІ,**
**Кастусь КАШЭЛЬ,**
**Сяргей ПАПКОЎ,**
**Генадзь ПЛЯШКО,**
**Алег РАДЗЮК,**
**Уладзімір РАМАНЦОЎ,**
**Алесь ЧАХОЛЬСКІ,**
**Уладзімір ЮХО.**

## ІДЗЕ ПАДПІСКА НА «НАРОДНУЮ ВОЛЮ» НА IV КВАРТАЛ 2003 ГОДА

# Скажам шчыра...

Мы ганарымся нашым сяброўствам.

А таму будзем разам і надалей.

Фінансавыя цяжкасці не дазваляюць падпісацца на квартал? Зрабіце гэта на два месяцы, у крайнім выпадку — на месяц.

Разлічваем на тое, што бедным дапамогуць тыя, хто стаіць на нагах больш моцна.

Вы не здрадзіце нам — мы не здрадзім вам.

Адстойвалі праўду і будзем адстойваць.

Абаранялі гонар Бацькаўшчыны і будзем абараняць.

Выкрывалі авантурыстаў усіх масцей і будзем выкрываць.

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі ______ руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі ______ руб. | |

на 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

*Хотим напомнить: по самым низким ценам (без стоимости почтовых услуг) минчане могут оформить подписку на "Народную волю" в пунктах подписки, в магазинах и киосках "Мингорсоюзпечать". При этом газету можно будет получать в любой удобной для вас торговой точке "Белсоюзпечати". Публикуем адреса пунктов, где можно оформить подписку "До востребования". Если есть какие-то вопросы — звоните по указанным телефонам.*

# И Вы сэкономите!

**Участок подписки «Белсоюзпечать»**

| | |
|---|---|
| ул.Володарского, 16, комн. 302 | 227-88-41 |

**Пункты приема подписки:**

| | |
|---|---|
| ул.Жуковского, 5, корп.1 | 224-32-03 |
| пр.Ф.Скорины, 113 | 264-22-91 |
| ул.Романовская Слобода, 9 | 220-83-04 |
| ул.О.Кошевого, 8 | 230-29-20 |

**Магазины**

| | |
|---|---|
| №1 ул.Жуковского, 5 | 224-03-76 |
| №2 пр.Ф.Скорины, 44 | 284-83-59 |
| №3 пр.Ф.Скорины, 76 | 232-46-23 |
| №4 ул.Ленина, 15 | 227-11-92 |
| №6 ул.Филимонова, 1 | 235-63-11 |
| №7 ул.Я.Коласа, 69 | 288-30-20 |
| №8 ул.Сурганова, 40 | 232-45-10 |
| №9 пр.Рокоссовского, 140 | 247-30-15 |
| №10 бульвар Шевченко, 7 | 233-74-88 |
| №11 пр.Пушкина, 77 | 255-80-71 |
| №12 ул.Кижеватова, 80 | 278-77-61 |
| №13 ул.Калиновского, 82, корп.2 | 264-06-42 |
| №14 ул.Володарского, 22 | 227-75-55 |
| №15 ул.Танковая, 16 | 223-82-39 |
| №16 ул.В.Хоружей, 24 | 234-27-25 |
| №17 ул.Некрасова, 35 | 231-03-28 |
| №18 станция метро "Площадь Победы" | 284-31-06 |
| №19 пр.Машерова, 51, корп.1 | 223-81-66 |
| №20 ул.Есенина, 16 | 271-87-21 |
| №21 станция метро "Пушкинская" | 255-57-20 |
| №22 ул.Илимская, 10, корп.2 | 243-16-83 |
| №23 ул.Славинского, 39 | 264-36-33 |
| №24 ул.Жилуновича, 31 | 245-05-74 |
| №25 ул.К.Маркса, 21 | 227-08-52 |

**Киоски**

№2 Лингвистический университет, ул.Захарова, 21
№18 Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4
№38 Педагогический университет, ул.Советская, 18
№78 г-ца "Юбилейная", пр-кт Машерова, 19
№95 Министерство архитектуры и строительства, ул.Мясникова, 39
№136 ст. метро "Площадь Я.Коласа", выход к Академии физвоспитания
№187 г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15
№189 автовокзал "Московский"
№198 Экономический университет, пр-кт Партизанский, 26
№209 проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2
№228 Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17
№232 Минский завод холодильников, пр-кт Машерова
№245 Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56
№259 Минский государственный торговый колледж, ул.Восточная, 183
№260 пр.Ф.Скорины, 169
№262 г-ца "Планета", пр-кт Машерова, 31
№298 пр.Машерова, 75/1
№302 9-я больница, ул.Семашко, 8
№313 Слободской проезд, 24

## Калгасы і саўгасы — адзін мільён тон бульбы, прыватныя гаспадаркі — каля шасці мільёнаў тон

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення земляробства і раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Віктар Корнеў, сёлета плошча, аддадзеная пад бульбу ў грамадскім сектары сельскай гаспадаркі, займае 55,2 тысячы гектараў. У прыватнасці, у Магілёўскай вобласці яна складае 4,5 тыс. га, Віцебскай — 5,6, Гродзенскай — 8,3, Гомельскай — 9,3, Брэсцкай — 10,1, Мінскай — 17,4 тысяч гектараў.

Сярэдняя ўраджайнасць бульбы па краіне складае 169 цэнтнераў з гектара. Найбольш высокі гэты паказчык у Гродзенскай вобласці (210 ц/га), самы нізкі — у Віцебскай (143).

Паводле слоў В.Корнева, арганізацыі Мінсельгасхарча плануюць сабраць каля 1 мільёна тон бульбы. Яшчэ каля 6 мільёнаў тон збяруць у прыватных і фермерскіх гаспадарках.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## «Канверсія-2»

Стаміўшыся ад бяздомнасці і канчаткова зразумеўшы, што дзяржава не дапаможа, афіцэры і прапаршчыкі Віцебскага гарнізона вырашылі самастойна рушыць у атаку на жыллёвую праблему.

Днямі ў абласным цэнтры быў закладзены падмурак 136-кватэрнага кааператыўнага дома, які ўжо цяпер жыхары навакольных шматпавярховак называюць "ваенным". Заказчыкам яго з'яўляецца жыллёва-будаўнічы кааператыў "Канверсія-2", створаны бяздомнымі вайскоўцамі ў 1998 годзе. Пяць гадоў ветэраны гарнізона, сярод якіх ёсць удзельнікі афганскай вайны, дабіваліся афіцыйнага прызнання свайго кааператыва і толькі сёлета змаглі атрымаць усе неабходныя дакументы, каб распачаць будоўлю, для чаго перш-наперш спатрэбілася атрыманне банкаўскага крэдыту і заключэнне дагавору з падрадчыкам — Віцебскім домабудаўнічым камбінатам, кіраўніцтва якога паабяцала, што праз год-два ў шматпавярхоўцы на вуліцы "Праўды" 136 сем'яў ваеннслужачых змогуць справіць наваселле. Многія члены ЖБК "Канверсія-2" адслужылі ў арміі па 15—20 гадоў, але так і не дачакаліся бясплатнага жылля.

Новы 136-кватэрны дом закладзены побач з месцам знаходжання 103-й брыгады Мабільных сіл (былой Віцебскай паветрана-дэсантнай дывізіі), у шэрагах якой кожны трэці афіцэр або прапаршчык мае патрэбу ў жыллі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Амерыканскі ансамбль — у Беларусі

9—15 верасня ў Беларусі адбудуцца выступленні амерыканскага харэаграфічнага ансамбля "The Moving Arts Dance" (Сан-Францыска, штат Каліфорнія).

Ён выступіць з канцэртамі ў Гродне ( 9 верасня, Абласны драматычны тэатр), Гомелі (11 верасня, Гарадскі культурны цэнтр), Віцебску (14 верасня, Абласны драматычны тэатр імя Якуба Коласа) і Мінску (15 верасня, Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады). Разам з беларускімі танцоўшчыкамі і харэографамі ансамбль пакажа праграмму сучаснага танца ў стылі мадэрн.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Дні эканомікі Беларусі ў Сербіі

Прадстаўнікі больш чым 20 беларускіх прадпрыемстваў возьмуць удзел у Днях эканомікі Беларусі ў Сербіі. Іх візіт у Белград запланаваны на 14—20 верасня.

Прадстаўнікі сербскіх дзелавых колаў зацікаўлены ў супрацоўніцтве з вытворцамі і экспарцёрамі машынабудаўнічай, металургічнай, аўтатранспартнай, дарожна-будаўнічай, электратэхнічнай, оптыка-механічнай, дрэваапрацоўчай, харчовай і іншых галін прамысловасці.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**



*Вучань другога класа сярэдняй школы №1 горада Чавусы канікулы праводзіць у бабулі, якая пражывае ў вёсцы Баеўка. Ён часта ходзіць у лес па грыбы і заўжды вяртаецца вось з такім "ураджаем".*

**Фота Валерыя БЫСАВА, БелТА.**

# Дорога в ад,

## или На какие цели понадобились пенсии стариков

Правило дурного тона — в каждом шаге, каждом действии белорусских властей видеть исключительно негатив. Если по-настоящему озабочен судьбою страны, ее народа, нужно максимально сохранять объективность, ответственно подходить к анализу деятельности высшего белорусского руководства.

Скажем, в той же социальной сфере. Ведь не секрет, что все последние годы, особенно вторую половину 90-х, наша страна выгодно отличалась от своих соседей — России и Украины (сейчас там, однако, ситуация существенно улучшилась) своевременной выплатой пенсий. Но, похоже, что для нашего старшего поколения времена относительного благополучия с пенсионным обеспечением, как, впрочем, и для всех остальных граждан, имеющих отношение к сфере социального страхования, заканчиваются.

В конце августа т.г. А.Лукашенко провел совещание по вопросу оптимизации деятельности Фонда социальной защиты населения Министерства труда и социальной защиты (далее — Фонд). Предложения правительства о повышении роли Фонда и совершенствовании процесса пенсионного обеспечения, в том числе путем передачи ему функций по назначению и выплате пенсий, президентом отвергнуты. И это в то время, как во всем мире, включая Россию и другие соседние государства, назначают и выплачивают пенсии не структуры местной власти, а орган, который в период трудовой деятельности работника собирал и учитывал его взносы на будущую пенсию, то есть копил информацию для этой пенсии. Тем самым все сосредоточено в одних руках, компактно, прозрачно, собственно, так, как того и требует президент Беларуси.

Однако вместо того, чтобы сделать "так, как у людей", президент поставил вопрос с ног на голову, заявив, как пишет президентская пресс-служба, о нецелесообразности существования "своего рода второго министерства финансов в виде Фонда". Надо понимать, что Фонд, который сегодня собирает средства социального страхования и ведет их индивидуальный учет на каждого работника, будет ликвидирован.

Что же такое социальное страхование? Это стержень социальной защиты любого государства. Оно призвано поддерживать благосостояние трудящихся и их семей при утрате трудоспособности и заработка в связи с болезнью, беременностью и родами, уходом за малолетними детьми, несчастным случаем на производстве, при наступлении инвалидности, старости и т.д., а также в случае потери работы. Говоря другими, научными словами — это система правовых, экономических и организационных мер по компенсации и минимизации отдельных видов социальных рисков, связанных с потерей заработной платы.

Формирование средств социального страхования осуществляется в автономных внебюджетных фондах (пенсионный фонд, фонд социального страхования, фонд социального страхования от несчастных случаев на производстве и профессиональных заболеваний и т.д.). В России три таких фонда, в Украине — четыре. В Беларуси страховые взносы на все виды социального страхования (кроме страхования от безработицы и несчастных случаев на производстве и профессиональных заболеваний) поступают в один Фонд. Тариф страховых взносов, как известно, составляет для большинства нанимателей 35 процентов фонда заработной платы, а для работников — 1 процент начисленного заработка.

Бюджет Фонда на 2003 год составляет около 4 трлн. рублей (порядка 2 млрд. долларов США). Из этих средств около 80 процентов уходит на выплату пенсий. Судя по всему, сегодня Фонд со своими задачами в основном справляется: пенсии, хотя и недостаточные, выплачиваются вовремя.

Почему же вдруг поставлен вопрос о ликвидации Фонда и передаче его Министерству финансов? Видимо, пришел черед пенсионерам поделиться с государством своими кровными на фестивали, "базары", "дожинки", гигантские библиотеки и прочее. Государственные СМИ, освещая итоги совещания у президента, пестрели циничными заголовками вроде "Пенсионеры свое заслужили", "Мы в долгу перед ними" и т.д., в то время как от экспроприации средств Фонда старикам ничего не перепадет. Наоборот, их деньгами будут латать дыры в бюджете, как это сегодня происходит со средствами Фонда содействия занятости. Несколько лет назад этот Фонд был лишен автономности и его средства включены в бюджет. В этой связи заглянем в статью 27 Закона "О бюджете Республики Беларусь на 2003 год", где черным по белому написано: "Превышение доходов Государственного фонда содействия занятости ... над расходами направить на финансирование расходов республиканского бюджета". Не потому ли пособие по безработице сегодня составляет в среднем немногим более 20 тысяч рублей?! Можно ли прожить на такие издевательские выплаты, имея семью?

Выходит, за фондом содействия занятости наступил черед пенсионного фонда. При этом никто не обращает внимания на то, что в статье 4 Закона Республики Беларусь "Об основах государственного социального страхования", принятого в январе 1995 года, записано, что "средства государственного социального страхования хранятся во внебюджетных государственных страховых фондах, ... не подлежат изъятию, ... и не могут быть использованы на цели, не предусмотренные законодательством о государственном социальном страховании". Для кого издан этот Закон? Наверное, не для Министерства финансов, которое беззастенчиво заимствует деньги безработных. Какова же перспектива Фонда в случае передачи его под крыло Минфина, который и без того уже не один год использует десятки миллиардов средств социального страхования на финансирование своих расходов. Об этом красноречиво свидетельствует статья 30 Закона "О бюджете Республики Беларусь на 2003 год". Неужели в Фонде есть лишние деньги, а у наших пенсионеров слишком большие пенсии?

Президент и его помощники, видимо, не знают, что в цивилизованных государствах средства социального страхования являются неприкосновенными. Социальное страхование без соответствующего автономного фонда и отдельного бюджета — это уже не социальное страхование. Страховые взносы, уплачиваемые нанимателями на социальное страхование, как и взносы самих работников, принадлежат застрахованным. В том числе тем, кто уже находится на пенсии, но в свое время отчислял в фонд часть своей заработной платы, а сегодня, исходя из принципа солидарности, получает пенсию за счет таких же страховых взносов нынешних работников. Эти средства, как отмечено выше, имеют целевой характер, являясь отложенной заработной платой, и не могут быть использованы на другие цели. Налоги же, за счет которых формируется госбюджет, в отличие от страховых взносов, аккумулируемых в специальном внебюджетном фонде, имеют совершенно иное предназначение и направленность.



Как пишет президентская пресс-служба, А.Лукашенко, обосновывая свое намерение передать средства социального страхования Министерству финансов, считает, что "за своевременную выплату пенсий должны отвечать местные исполнительные и распорядительные органы... Они могут как организационно, так и финансово обеспечить гарантированную выплату пенсий". Откуда они могут взять средства, чтобы помочь финансово в выплате пенсий, если практически все сельские райисполкомы являются дотационными и средств у них подчас не хватает даже для своевременной выплаты заработной платы учителям, врачам и другим бюджетникам?! Ведь более 40 процентов предприятий в республике убыточны, из них львиная доля, около 70 процентов, — предприятия сельского хозяйства. По этой причине в таких районах сегодня собирается намного меньше средств, чем их необходимо для финансирования пенсий жителям этих районов. Остальные средства поступают из Фонда за счет других промышленных районов и городов. А вот использовать деньги, предназначенные для пенсионеров, на другие цели, как это делает Минфин, соблазн на местах будет: дыр-то в местных бюджетах хватает. Очевидно, что если исходить из интересов пенсионеров, то лучшей формы управления финансами социального страхования, чем автономный фонд, — нет. Свидетельством тому является мировая практика и более чем 10-летний период существования такой структуры в нашей стране. Ведь и спросить-то проще с одного руководителя централизованной структуры, чем с руководителей всех местных исполнительных и распорядительных органов, у которых масса проблем, и решение любой из них является приоритетной.

В сообщении пресс-службы отмечалось, что глава государства, касаясь судьбы Фонда, "потребовал радикального решения этого вопроса, вплоть до возможного возврата к советской системе, которая себя оправдывала". В чем-то она, возможно, и оправдывала, но далеко не во всем. В тот период государственной монополии бюджетное финансирование пенсий в основном осуществлялось за счет налога на прибыль, а не за счет страховых взносов. Нагрузка по финансированию пенсий в большей степени тогда лежала на высокорентабельных предприятиях. Страховые же взносы являются частью стоимости рабочей силы, то есть заработной платой всех и каждого из работников. Во всем мире управление средствами социального страхования, являющегося эффективным инструментом социальной защиты в рыночной многоукладной экономике, осуществляется соответствующими фондами. Состав правления этих фондов формируется на принципах социального партнерства — государство, представители объединений нанимателей и работников (в лице профсоюзов). Хотя и номинально, но в составе Правления Фонда такие представители есть. И здесь важна их позиция, о которой у них, судя по всему, спрашивать не будут.

В связи с этим поражает бездеятельность Федерации профсоюзов (понятное дело, представителя Белорусского конгресса демократических профсоюзов в Правлении Фонда нет) в решении социальных проблем трудящихся и защиты их интересов. На ее глазах функциями обязательного страхования от несчастных случаев на производстве и профессиональных заболеваний на основании Декрета президента от 30.07.2003 г. наделен Белгосстрах, коммерческая (хотя и государственная) организация, находящаяся под патронатом Министерства финансов. В других государствах, в том числе в России и в Украине, этим видом страхования занимаются социальные некоммерческие фонды (такие как Фонд социальной защиты населения), а не страховые коммерческие организации, которые руководствуются не социальными, а жесткими финансовыми законами. Именно поэтому из названия этого вида страхования исчезло слово "социальное". Как можно было допустить, чтобы данный вид страхования стала осуществлять коммерческая организация, а не социальный некоммерческий фонд?! Почему забота о пострадавших на производстве и членах семей погибших возлагается на Белгосстрах (а значит, на Минфин и его департамент госстрахнадзора), а не на органы социальной защиты? Разве покалеченным на производстве работникам под крылом Минфина будет лучше, чем в социальном фонде?

Похоже на то, что все идет к тому, что социальное страхование как таковое может постепенно сойти на нет. Но знает ли глава государства, какие последствия повлечет за собой эта авантюра для тех, о ком нынешняя верховная власть неустанно на словах печется, — для людей старшего поколения? Очевидно одно: вместо ответственных действий по реформированию экономики и социальной сферы власть нашла "топор под лавкой", избрав в качестве финансового резерва для латания дыр в бюджете средства социального страхования. Попросту говоря — пенсии наших нищих стариков. Воистину благими намерениями дорога в ад мостится.

**Александр ЯРОШУК,
президент
Белорусского конгресса
демократических профсоюзов.**



**ПУЛЬС**

## Беларусь наведае місія Тайваня

Прадстаўнікі 44 кампаній і 5 знешнегандлёвых арганізацый Тайваня наведаюць Беларусь 13—17 верасня.

Яго мэта — нарошчванне гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва з Беларуссю.

Большасць удзельнікаў дэлегацыі заняты ў такіх абласцях прамысловасці, як машынабудаванне, вытворчасць электронных кампанентаў, камп'ютэрных аксесуараў, аўтазапчастак. Падчас візіту яны маюць намер правесці прэзентацыю сваіх кампаній, азнаёміцца з рынкам, інвестыцыйным кліматам і магчымасцямі эканомікі Беларусі, а таксама правесці перамовы з прадстаўнікамі беларускіх прадпрыемстваў з мэтай пошуку партнёраў для ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Новы тып візаў для грамадзян Беларусі

Еўрапейская камісія прапануе ўвесці новы тып візаў для грамадзян сумежных Еўрапейскаму Саюзу дзяржаў, у прыватнасці, Беларусі, Расіі, Украіны і Малдовы, якія пасля пашырэння ЕС у маі 2004 года будуць мець агульныя межы з Еўрасаюзам.

Як паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН Дыега Аджэйда, прэс-сакратар камісара ЕС па знешнегандлёвых справах, новы тып візаў спросціць перамяшчэнне грамадзян гэтых краін, якія жывуць на адлегласці не больш за 50 кіламетраў ад мяжы з ЕС. Віза, што будзе выдавацца тэрмінам ад аднаго да пяці гадоў, будзе бясплатнай. Яна дазволіць знаходзіцца ў межах краіны, што выдала візу, не больш за сем дзён запар і не больш за 90 сутак на працягу паўгода.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Жыллё для інвалідаў па зроку

8 верасня ў горадзе Гродна ўведзены ў эксплуатацыю інтэрнат для інвалідаў па зроку.

Як паведаміў старшыня Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) Алег Шэпель, жыллё для сляпых і слабабачачых пабудавана ў Беларусі ўпершыню за апошнія 13 гадоў. Шасціпавярховы будынак інтэрната ўзведзены ў эксплуатацыю на парытэтных пачатках БелТІЗ і Гродзенскім аблвыканкамам.

На кожным паверсе інтэрната шэсць аднапакаёвых і дзве двухпакаёвыя кватэры. Апрача таго, у будынку будзе кабінет рэабілітацыі, дзе маючыя патрэбу ў дапамозе інваліды па зроку наноў навучацца абслугоўваць сябе.

У 2004 годзе з дапамогай мясцовых улад БелТІЗ плануе ўвесці ў эксплуатацыю інтэрнат у горадзе Брэсце. "Штогод у краіне каля тысячы чалавек становяцца інвалідамі па зроку, і праблема жылля стаіць вельмі востра", — зазначыў А.Шэпель.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Знойдзена невядомае пахаванне

Парэшткі амаль 120 чалавек знойдзены падчас раскопак, што вядуцца ў мікрараёне Брэста Дуброўка.

Як мяркуецца, гэта пахаванне салдат царскай арміі. Аб чым сведчаць спарахнелае абмундзіраванне, пара пагонаў з царскімі гербамі, рэлігійныя медальёны і крыжыкі, металічныя гузікі з царскімі гербамі.

Пасля заканчэння раскопак — дзесьці напрыканцы кастрычніка — іх плануецца пахаваць на могілках у раёне вёскі Плоска Брэсцкага раёна.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# Ільнозаводы Віцебшчыны — у «даўгавой яме»

У крытычным, амаль бязвыхадным становішчы апынуліся з-за банкаўскіх крэдытаў ільнозаводы Віцебскай вобласці. Так і не апрытомнеўшы ад страт сыравіны ў выніку мінулагодняга неўраджаю, большасць гэтых прадпрыемстваў прастойвае па 6—8 месяцаў. Да прыкладу, Чашніцкі льнозавод павінен "Беларусбанку" 52 мільёны рублёў. Пасля звяртання банка у Гаспадарчы суд вобласці на частку маёмасці завода накладзены арышт, у выніку чаго вытворчасць ільновалакна спынілася.

Яшчэ больш — 70 мільёнаў рублёў — павінен таму ж банку Бешанковіцкі льнозавод, які ўжо шэсць год запар церпіць сыравінны голад. Праўда, у гэтага прадпрыемства ёсць 300 гектараў уласных льняных палеткаў, але выкарыстаць ураджай гаспадары не могуць з-за адсутнасці ўборачнай тэхнікі, на пакупку якой няма грошай, а звяртацца ў банк за новым крэдытам няма сэнсу.

66 мільёнаў рублёў складае запазычанасць перад банкам у Гарадоцкага льнозавода, які быў вымушаны па загадзе дырэктыўных органаў набыць для гаспадарак раёна дарагія гербіцыды за ўзяты ў банку крэдыт. У выніку гэтай недарэчнай фінансавай аперацыі ў прадпрыемства ўтварылася неадольная запазычанасць, якая прывяла перапрацоўшчыкаў лёну на лаўку адказчыкаў у Гаспадарчым судзе, які пастанавіў спагнаць з прадпрыемства разам з працэнтамі інфляцыі ўжо не 66, а 86 мільёнаў.

Крэдыты, не пагашаныя згаданымі заводамі, даюць банку падставу адмаўляць у новых пазыках гэтым ды іншым прадпрыемствам галіны, і колькасць даведзеных да жабрацтва льноперапрацоўчых вытворчасцяў пастаянна расце, бо адсутнасць грошай на зарплату і разлікі за сыравіну пагаршае фінансавае становішча і тэхналагічныя магчымасці льнозаводаў.

Лёзненскі льнозавод вырасціў неблагі ўраджай лёну на ўласным 670-гектарным полі. Але каб убраць трасту, патрэбны рабочыя, а каб ім заплаціць за працу, патрэбны грошы. А знайсці іх можна толькі ў банку — у выглядзе крэдыту, які банк не дае, бо прадпрыемства яшчэ не разлічылася за папярэднія пазыкі. Кола, як кажуць, замкнулася...

Такое становішча склалася не толькі на льнозаводах, але і на многіх іншых прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу. З пачатку года ў Гаспадарчым судзе сабралася больш як 900 спраў па непагашаных крэдытах, у тым ліку — і тых, што былі атрыманы льнозаводамі.

Суддзі, разглядаючы гэтыя справы, па большасці якіх ужо вынесены пастановы аб спагнанні запазычанасці з адказчыкаў, і самі адчуваюць сябе няёмка. Калі дзейнічаць у адпаведнасці з законам, то трэба накладваць арышт на маёмасць вінаватых прадпрыемстваў і прадаваць яе з малатка для пакрыцця даўгоў. Але гэта толькі паскорыць шлях крэдытораў-неплацельшчыкаў да банкруцтва, поўнага краху. Каму ад гэтага будзе карысць?

Заводы-крэдыторы маглі б паправіць сваё становішча, прадаючы выпрацаванае льновалакно не Аршанскаму льнокамбінату, а прыватным камерцыйным структурам для наступнага збыту за мяжу. Гэта было б значна выгадней, бо прыватнікі даюць больш грошай за прадукцыю, чым Аршанскі тэкстыльны гігант. Але за такое, у прынцыпе, разумнае, рупнае рашэнне праблемы безграшоўя ўлада пакарае нямінуча, бо для ўлады важны не праблемы перапрацоўшчыкаў, а выкананне імі дзяржаўных заданняў па закупу трасты ў гаспадарак і пастаўках валакна ў Оршу. Пры гэтым дзяржзаказ ільнозаводам расце год ад года, а за кошт чаго ён будзе выконвацца, нікога не цікавіць. Больш таго: калі кіраўнікі трапіўшых у "даўгавую яму" заводаў пачнуць несвоечасова выдаваць зарплату сваім рабочым, ніякія спасылкі на адсутнасць сыравіны або зношанае абсталяванне не выратуюць дырэктараў ад жорсткай прэзідэнцкай кары.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Неапраўданы аптымізм

*Міжнародны валютны фонд лічыць, што прагнозы ўлад Беларусі ў адносінах да рэальнага эканамічнага росту на 2004 год з'яўляюцца занадта аптымістычнымі. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі заявіў кіраўнік місіі МВФ у Беларусі, намеснік кіраўніка другога еўрапейскага дэпартамента фонду Томас Рычардсан.*

Місія МВФ працавала ў Мінску з мэтай агляду змяненняў у эканоміцы, абмеркавання бюджэту і макраэканамічнай палітыкі на 2004 год, ацэнкі падрыхтоўкі да валютнага саюза з Расіяй, а таксама з мэтай абмеркавання інтарэсу ўлад да перамоў па ўзгадненні аб крэдыце "стэнд-бай".

Як зазначыў паводле вынікаў працы місіі яе кіраўнік Томас Рычардсан, існуе метадалагічнае разыходжанне паміж тым, як разлічваецца рост рэальнага ВУП у Беларусі з міжнароднай практыкай. "Малаверагодна, што ў Беларусі вытворчасць на працягу некалькіх гадоў запар можа расці больш хуткімі тэмпамі, чым у яе асноўных гандлёвых партнёраў", — зазначыў прадстаўнік МВФ. Паводле слоў Т.Рычардсана, калі ў адносінах да разліку росту беларускага ВУП прымяняць міжнародную метадалогію налічэння, дык яго аб'ём будзе прыкладна на 1,5 працэнта меншым за афіцыйныя разлікі.

**Аляксей АРЭШКА.**

**«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО**

# Давайте любить своих певцов

Добрый день, "Народная воля"!

Мне 15 лет, и я перешла в 10 класс. Мое место жительства — городской поселок. Я постоянно читаю "Народную волю" и заметила, что у вас еще ни разу не затрагивалась такая тема, как связь между политикой и музыкой в нашей стране. Вы берете интервью у Ядвиги Поплавской, Малинина и других совсем не котирующихся в наше время исполнителей. Да, вы писали о Сергее Михалке, но не в качестве певца, а как "Сирожа". Это тоже неплохо. Но все же во все времена и поколения именно музыка выражала настроение, дух человека и в целостности всего народа. Кто такой Малинин? Он просто очень некачественно поет кем-то написанные ему песни. А где наши настоящие белорусские таланты? Ведь их у нас полным полно.

Для чего проводится "Славянский базар"? Просто кто-то хочет порисоваться: мол, видите, сколько у нас денег, такой фестиваль организовываем. А нет бы вложили эти деньги в раскрутку белорусских групп.

Да кто такие эти Витасы, Басковы, Алсу? Культурный человек вряд ли бы платил бешеные деньги за прослушивание "фанеры". Но наш народ покорный — как же пропустить такое историческое событие, как концерт Алсу! Она ведь такая талантливая — принцесса бензоколонки "Лукойл". А Лявон Вольский в это время забирает всю зарплату мамы и пенсию бабушки на запись нового альбома.

На всех радиостанциях знают о том, что нужно больше давать в эфир белорусской музыки. И диджеи на словах как будто с этим согласны. Но продолжают крутить диски тех же Малининых, Моисеевых, Арбениных, а наши, как всегда, "в пролете".

Их страх понятен. Во-первых, большинство наших групп поют на белорусском языке, что приводит в смятение чиновников, так как последние проводят план русификации Беларуси.

Во-вторых, в Беларуси практически 90% музыки — рок. Поскольку рок — признак анархизма, то его исполнители высказывают все свои мысли целиком и полностью: они независимы. Если какую-либо такого рода группу сделать популярной, то о них очень часто начнет писать пресса и показывать телевидение, что приведет к нежелательному раскрытию великих тайн правительства и ополчению народа на него. Ведь именно таким образом можно открыть глаза спящим еще до сих пор.

В-третьих, музыка-то слабенькая. Аппаратура вся послевоенная, звукозаписывающие студии толка никакого не дают, лишь бы самим животы отрастить. Когда Пугачева за один концерт в Беларуси может записать пол-альбома, то наши молодые группы сидят на хлебе и молоке и работают на десяти работах, чтобы купить новую гитару.

А куда в это время смотрит правительство? Ведь там должны быть культурные люди. Ведь должна развиваться белорусская культура.

И хочу заметить еще одну черту в белорусской музыке. Как видите, сейчас у нас практически нет "попсы". Если же она и есть, то в намного меньшем количестве, чем рок. Буквально в каждой деревне, поселке, не говоря уже о городе, есть рок-группа из местных гитаристов. Все они слушают "Король и Шут", "Арию", "Земфиру". Но я, как одна из их числа, уверяю вас, что наш интерес к белорусскому року ничуть не меньший. Только проблема заключается в том, что у нас негде достать белорусских кассет. А поп-музыка совсем несерьезная и легкомысленная. Она неуместна для нашего тяжелого времени.

В Беларуси есть столько великолепных групп, певцов, певиц! Давайте любить их и уважать Беларусь!

**С уважением —**

**Даша ПОЛЯК,
ученица 10 класса
Бегомльской средней школы
Докшицкого района.**

